© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ЦАНА — PRICE 50 ¢

Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN
ASSOCIATION, Inc., U. S. A.

# Беларус

Address:
BIELARUS
166-34 Gothic Drive
Jamaica, N. Y. 11432

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVII. № 106 Студзень 1966. NEW YORK January 1966. Vol. XVII. № 106.

## РАСПАЧЫНАЮЧЫ НАШАНІЎСКІ ГОД

Сёлета прыпадае вельмі важны юбілей у беларускім нацыянальна-адраджэнскім руху — 60 год „Нашай Нівы" й нашаніўства. Газэта „Наша Ніва" згуляла нагэтулькі вялікую й вызначальную ролю ў беларускім нацыянальным адраджэньні, што ўвесь ягоны пэрыяд часоў выхаду „Нашай Нівы", як і колькі пазьнейшых год атрымаў у гісторыі назоў нашаніўскага пэрыяду. Таму сёлетні год, у якім спаўняецца 60 год ад зьяўленьня „Нашай Нівы", зусім мэтазгодна назваць Нашаніўскім Годам.

„Наша Ніва" была беспасярэдня папярэджаная выдаванай у Вільні тыднёвай газэтай „Наша Доля". Першы ейны нумар выйшаў датай 14 верасьня 1906 году. Газэта насіла войстры рэвалюцыйны характар і таму на шэсьць выпушчаных ейных нумароў аж пяць было канфіскаваных, а на 6-ым нумары газэта была зусім спыненая царскімі ўладамі. На ейным месцы пачала 24 лістапада 1906 году выходзіць таксама ў Вільні тыднёвая газэта „Наша Ніва". Яна праіснавала да 7-га жніўня 1915 году, калі ў сувязі з наступам нямецкае арміі ў Першую сусьветную вайну выхад газэты спыніўся зусім.

Гістарычная роля „Нашай Нівы" вымяраецца аж некалькімі важнымі аспэктамі, што ў працэсе беларускага нацыянальнага адраджэньня мелі вызначальнае значаньне.

Перш-наперш „Наша Ніва", яшчэ пад сваім спачатным назовам „Нашай Долі", была наагул першай легальнай беларускай газэтай. Яна змагла зьявіцца дзякуючы скасаваньню ў 1905 годзе забароны беларускага друку царскім урадам. Першай-жа наагул беларускай газэтай была, як ведама, нелегальная „Мужыцкая Праўда", якую выдаваў Кастусь Каліноўскі на працягу 1862-1863 году, выпусьціўшы сем нумароў яе.

„Наша Ніва" стварыла цэлы пэрыяд у беларускай адраджэнскай літаратуры. званы нашаніўскім пэрыядам. Ужо ў першым нумары „Нашай Долі" быў зьмешчаны наагул першы друкаваны верш Якуба Коласа „Наш родны край". У гэным-жа першым нумары было надрукаванае й апавяданьне Цёткі „Прысяга над крывавымі разорамі". Пачынаючы з 18-га нумару за 11 травеня 1907 году, у „Нашай Ніве" сыстэматычна друкуе свае творы Янка Купала. А ў вапошняй фазе існаваньня „Нашай Нівы". ад 22 лютага 1914 да 7 жнівеня 1915 году Янка Купала зьяўляецца й рэдактарам „Нашай Нівы". Апрача іх, у „Нашай Ніве" друкаваліся йшчэ такія паэты й пісьменьнікі гэнага часу, як Ядвігін Ш., Карусь Каганец, Альбэрт Паўловіч, Зьмітрок Бядуля, Цішка Гартны, Алесь Гарун, Максім Багдановіч, Канстанцыя Буйла, а з пазьнейшых пісьменьнікаў — Максім Гарэцкі й Вацлаў Ластоўскі-Власт. Наагул ня было тады бадай ніводнага беларускага паэты й пісьменьніка, які-б ня друкаваўся ў „Нашай Ніве".

Усіх гэтых паэтаў і пісьменьнікаў задзіночвала й супольная нацыянальная ідэя, што была фармуляваная й разьвіваная на бачынах газэты „Нашай Нівы". Таму іхная сувязь з „Нашай Нівай" больш чымся адно фармальная, чым быў факт друкаваньня ў ёй іхных твораў, але й ідэйная, нацыянальна-адраджэнская. Вось чаму нельга знайсьці больш правільнага назову для гэнага пэрыяду беларускай літаратуры, як нашаніўскай пэрыяд або наагул нашаніўства.

Але „Наша Ніва" вызначыла новы пэрыяд і ў беларускім нацыянальна-палітычным руху. Яна была фактычным органам палітычнай партыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, што была заснаваная ў 1902 годзе спачатку пад назовам Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады. Але нацыянальная ідэялёгія Грамады сфармавалася пазьней ужо на бачынах „Нашай Нівы" як ейнымі галоўнымі публіцыстымі на чале з Антонам Луцкевічам, гэтак і паэтамі на чале зь Янкам Купалам.

Галоўным стрыжнём нашаніўскае нацыянальнае ідэялёгіі было паграбаваньне вызнаньня за беларускім народам спачатку ягонае людзкае, а пасьлей і нацыянальнае годнасьці. Гэтую ідэю найбольш зырка й поўна сфармуляваў Янка Купала ў сваім раньнім вершы „А хто там ідзе" ў словах — „людзьмі звацца!", а тады, у вершы 1911 ці 1912 году „Маладая Беларусь" у лёзунгу-закліку — „Занімай, Беларусь, маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі!" Падобнае-ж сфармуляваньне нацыянальнае ідэі даў Купала й у вершы 1911 году „Не загаснуць зоркі ў небе", які ёй прысьвяціў „Нашай Ніве" з нагоды „яе пяцілетняй ідэёвай працы для многамільённага беларускага народу". У гэтым вершы наступная зваротка —

Зацьвіце яна, як сонца
Пасьля непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
Між усіх народаў —

паўтарае гэны лёзун-заклік зь верша „Маладая Беларусь". Гэткім парадкам, гуманістычная ідэя, што ў Купалавай творчасьці эвалюцыянавала ад „людзьмі звацца" да „народам звацца", і легла ў васнову нашаніўскага нацыянальнага адраджэнства.

„Наша Ніва" й нашаніўства, як адзін з найважнейшых нацыянальных фактараў і мамэнтаў усяе нашае гісторыі, у сёлетнія 60-ыя ўгодкі павінны быць прыпомненыя й найбольш годна адзначаныя Беларусамі ў Вольным Сьвеце. Таму ў Вольным Сьвеце, бо ў паняволенай Бацькаўшчыне вакол „Нашай Нівы" й нашаніўства створаная бальшавікамі фантастычная легэнда хвальшу. Якраз таму, што ў васнову нашаніўства была пакладзеная не інтэрнацыянальная, а беларуская нацыянальная ідэя, бальшавіцкая гістарыяграфія прадстаўляе „Нашу Ніву" як рэакцыйную буржуазна-нацыяналістычную газэту. Каб неяк ідэйна адгарадзіць ад „Нашай Нівы" беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, перш-наперш Янку Купалу й Якуба Коласа, якіх бальшавікі вызнаюць ідэйна сваймі, яны й стварылі легэнду аб тым, што быццам фактычныя гаспадары „Нашай Нівы", ейныя публіцыстыя былі буржуазна - нацыяналістычнымі рэакцыянерамі. Затое паэты й пісьменьнікі, што друкавалі ў „Нашай Ніве" свае творы быццам адно з канечнасьці, бо „Наша Ніва" была ў гэным часе адзінай газэтай у беларускай мове, належылі да прагрэсыўнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку. Гэтая легэнда аб няіснуючым у запраўднасьці ідэялягічным падзеле нашаніўцаў наскрозь галаслоўная. Тагачасныя паэты й пісьменьнікі, перадусім Янка Купала, былі душою „Нашай Нівы". Іхнай творчасьці ніяк нельга аддзяліць ад „Нашай Нівы". І наадварот, „Наша Ніва" — гэта публіцыстычная ілюстрацыя нацыянальна - адраджэнскай ідэялёгіі беларускай нашаніўскай літаратуры.

Таму нічога дзіўнага, што больш аб'ектыўныя й сумленныя дасьледавальнікі беларускай літаратуры й гісторыі ў падсавецкай Беларусі яшчэ ад канца 1956 году пачалі рабіць спробы рэгабілітацыі „Нашай Нівы" й вызнаньня за ёй тэй вялікай ролі, якую яна згуляла ў гісторыі беларускага адраджэньня. Апошнюю такую спробу зрабіў у 1964 годзе навет былы сакратар, а тады сябра ЦК Камуністычнай партыі Беларусі акадэмік Ц. Гарбуноў. Нажаль ЦК партыі засудзіў ягоныя спробы, як шкодныя, і спыніў усякую далейшую дыскусію на гэтую тэму. У беларускім падсавецкім друку сяньня не знаходзім навет напаміну аб сёлетнім юбілеі „Нашай Нівы". Ужо адно гэта дадатковая прычына, каб у Вольным Сьвеце, як найшырэй гэты юбілей быў адзначаны.

Як успаміналася, выхад „Нашай Нівы" спыніўся ў жніўні 1915 году, а Беларусь апынулася падзеленая на дзьве часьці расейска-нямецкім ваенным фронтам. Але й у новых ваенных абставінах прадаўжаліся слаўныя традыцыі „Нашай Нівы".

У заходняй часьці Беларусі, акупаванай нямецкай арміяй, 15 сьнежня 1916 году пачала выходзіць у Вільні беларуская тыднёвая газэта „Гоман", якая пратрывала да канца 1918 году. Гэткім парадкам, сёлета прыпадае 50-цігадовы юбілей гэтае газэты. „Гоман", рэдагаваны выдатнымі нашаніўцамі Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім, разьвіваў і папулярызаваў тыя-ж нацыянальна-адраджэнскія ідэі, што й „Наша Ніва".

Слаўнай прадаўжальніцай „Нашай Нівы" ў цэнтральнай і ўсходняй частках Беларусі, што знаходзілася на расейскім баку фронту, была газэта „Вольная Беларусь". Яна выходзіла ў Менску ад 1917 да 1918 году й была рэдагаваная выдатным беларускім культурным і палітычным дзеячом Язэпам Лёсікам. Калі спасярод беларускіх паэтаў Янка Купала найцясьней быў ідэйна зьвязаны з „Нашай Нівай", дык душою „Вольнай Беларусі" быў Якуб Колас. На бачынах гэтае газэты ўпяршыню друкаваліся бадай што ўсе Коласавы вершы, у якіх паэта расцэньваў бальшавіцкую рэвалюцыю, як чужую й варожую беларускаму народу зьяву, і супрацьстаўляў ёй ідэі беларускай нацыянальнай рэвалюцыі.

Наапошку, сёлета прыпадае яшчэ адзін важны юбілей, што таксама мае арганічную сувязь з „Нашай Нівай" і нашаніўствам. Гэта — 40-годзьдзе ад заснаваньня ў сакавіку-травені 1926 году й 35-годзьдзе ад разьвязаньня ў сьнежні 1931 году Беларускага Літаратурна-Мастацкага Згуртаваньня „Узвышша". Гэтае Згуртаваньне й выдаваны ім ад 1927 году аднайменны часапіс паставілі сабе за мэту падняць беларускую літаратуру на такое ўзвышша, якое, як гаварылася ў праграмных тэзах Згуртаваньня, „угледзяць вякі і народы". Створаная гэтым Згуртаваньнем узвышэнская ідэйна-мастацкая плынь, ня перастаючы быць беларускай, мела падняцца да ўзроўню агульналюдзкага. Разам з гэтым ды ў сувязі з гэтым „Узвышша" ачоліла й найбольш стойкі супраціў прымусовай саветызацыі беларускай літаратуры.

Гэтак „Узвышша" распачало новы, пасьля нашаніўскага, узвышэнскі пэрыяд беларускай літаратуры. Нажаль, гэты літаратурны рух, што вырастаў з нашаніўства й быў вышэйшай ягонай фазай, у самым сваім зародку быў спынены бальшавікамі, а бальшыня сяброў „Узвышша" была арыштаваная й высланая зь Беларусі. Знаходзячыся ўвесь час пад наглядам пільнага партыйнага вока ды будучы перадчасна зьлiквідаваным, „Узвышша" не змагло яшчэ гэтак глыбака пусьціць карэньняў у беларускую глебу, як зрабіла гэта „Наша Ніва". Тым ня менш, калі апошнімі гадамі ў сувязі з асуджэньнем гэтак званага культу асобы Сталіна заіснавалі некаторыя магчымасьці свабаднейшага разьвіцьця беларускай літаратуры, дык разьвіцьцё гэтае пайшло тымі ідэйнымі й мастацкімі шляхамі, якія былі пракладзеныя ўзвышэнствам.

Распачынаючы сёлетні Нашаніўскі Год, астаецца прыпомніць і нанава асэнсаваць усе найвыдатнейшыя падзеі нашае ня гэтак далёкае мінуўшчыны, што былі беспасярэднім і пасярэднім вынікам дзейнасьці „Нашае Нівы". А дзейнасьць гэтая, як самой „Нашай Нівы" й нашаніўцаў, гэтак і ейных прадаўжальнікаў — „Гоману" й „Вольнай Беларусі", ды прыйшоўшага на зьмену нашаніўству — узвышэнства — гэта найкаштоўнейшыя скарбы нашае нацыянальнае спадчыны.

### ДА ЎСІХ НАШЫХ СУРОДЗІЧАЎ

**Просім безадкладна аднавіць падпіску на газэту „Беларус" за 1966 год усіх тых, што яшчэ гэтага не зрабілі. Як паведамлялася ў папярэднім нумары, падпіска ў сёлетнім годзе выносіць 6 даляраў. Таму ўсіх тых, што прыслалі падпіску ў суме 4 даляры, як было летась, ветліва просім даслаць рэшту.**

**Газэта знаходзіцца ў вельмі цяжкім фінансавым палажэньні, што ейнае далейшае існаваньне моцна загрожанае, калі нашае грамадзтва ня прыйдзе ў час з патрэбнай дапамогай. Таму, апрача падпіскі ветліва просім нашых суродзічаў прысылаць і большыя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса" ды зьбіраць такія ахвяры сярод сваіх знаёмых. Таксама просім усіх тых, што атрымліваюць газэту, прыдбаць новых падпішчыкаў.**

**Чэкі на падпіску й ахвяры на газэту просім выстаўляць на "Newspaper Bielarus" і прысылаць на адрыс Адміністратара „Беларуса":**

**Mr. Aleksander Mickievich**
**90-16 54th Avenue**
**Elmhurst, N. Y. 11373**

**Выдавецтва газэты „Беларус"**

## АМЭРЫКАНСКА — САВЕЦКІЯ КАСЬМІЧНЫЯ СУСЬЦІГІ

Праведзеную у сьнежні сустрэчу ў космасе караблёў „Джэміні-6" і „Джэміні-7" называлі ў Амэрыцы трыюмфам касманаўтыкі, рэкордам дакладнасьці, вялікім крокам у кірунку да заваёвы Месяца. Важнасьць гэтае падзеі ў тым, што здольнасьць праводзіць сустрэчы ў космасе — канечная перадумова для далейшага прагрэсу касьмічных палётаў. Караблі „Джэміні-6" і „Джэміні-7", як ведама, патрапілі наблізіцца адзін да аднаго на дыстанцыю ад 2-х да 3-х мэтраў. Гэта значна перавышае дасюлешні савецкі рэкорд, пастаўлены ў 1962 годзе, калі касманаўты Нікалаеў і Паповіч здолелі наблізіць свае караблі прыблізна на 5 кілямэтраў адзін ад аднаго.

Назіральнікі ўважаюць, што ў выніку ўдалае сустрэчы „Джэміні-6" і „Джэміні-7", Амэрыка здабыла важную псыхалягічную перавагу ў касьмічных сусьцігах з Савецкім Саюзам. Шмат хто ўважае, што Задзіночаныя Штаты ў гэтым вялізманым паядынку з Савецкім Саюзам выйшлі цяпер на першае месца ў сэньсе міжнароднага прэстыжу.

Праўда, робячы дакладную ацэну амэрыканска-савецкага касьмічнага балянсу, назіральнікі перасьцярагаюць перад залішне аптымістычным спрошчваньнем справы на карысьць Амэрыкі. Касьмічныя сусьцігі, адзначаюць яны, — гэта ня толькі выперадкі двух бягуноў, а цэлае дзесяціборства, у ім у вадной галіне адзін можа быць наперадзе, а ў іншай галіне — другі. Савецкі Саюз, адзначаюць назіральнікі, усё яшчэ мае ўдвая магутнейшыя ракетныя рухавікі, што даюць яму магчымасьць запушчаць блізу ўдвая большыя касьмічныя караблі. Тое самае і ў штучных спадарожніках: калі падсумаваць агульную вагу ўсіх савецкіх штучных спадарожнікаў, запушчаных у космас, дык яна ўдвая перавышае агульную вагу спадарожнікаў амэрыканскіх. З другога боку, аднак, калі браць на колькасьць, дык Задзіночаныя Штаты запусьцілі штучных спадарожнікаў бадай утрая больш за Савецкі Саюз — Амэрыка 330, Савецкі Саюз 125.

Паколькі Амэрыка змушаная карыстацца штучнымі спадарожнікамі й касьмічнымі караблямі меншых памераў, амэрыканскія інжынеры дасягнулі большае манэўранасьці сваіх касьмічных караблёў, а гэта — таксама важны, свайго роду, рэкорд у прасторавым дзесяціборсьцьве.

Раўнуючы ў іншых разрэзах дасягненьні ў космасе Амэрыкі й Савецкага Саюзу, назіральнікі прыводзяць гэткія лікі: бяручы ўсе палёты агулам, савецкія касманаўты абляцелі зямлю 292 разы, амэрыканскія касманаўты — 435 разоў. Савецкія касманаўты прабылі ў космасе ўсяго 507 чалавека-гадзінаў, амэрыканскія — 1320 чалавека-гадзінаў. Лікі гэтыя паказальныя ў тым сэньсе, што асноўная спружына поступу ў касьмічнай прасторы — гэта асабістае дазнаньне чалавека ў космасе, ды максымальныя дадзеныя пра тое, як уплывае на яго доўгае прабываньне ў космасе.

Задзіночаныя Штаты Амэрыкі здабылі апошнімі палётамі сваіх касманаўтаў вельмі шмат гэткіх дадзеных і ўсе яны замацоўваюць надзею, што мэта амэрыканскае касманаўтыкі — быць на Месяцы да 1969-га году — мае ўсе шансы на дасягненьне ў заплянаваны час.

**Я. З.**

### КУЛЬТУРНА-ГІСТАРЫЧНЫЯ СЁЛЕТНІЯ ЎГОДКІ

**850** год ад першага летапіснага спаміну аб Слуцку пад 1116 годам.

**675** год ад зацьверджаньня ў 1291 годзе бізантыйскім усяленскім патрыярхам Літоўскае мітраполіі ў Навагрудку.

**90** год ад нараджэньня 3 ліпеня 1876 году й **50** год ад сьмерці 5 лютага 1916 году паэткі Алёізы Пашкевічанкі-Кайрыс (Цёткі).

**80** год ад нараджэньня 5 сьнежня 1886 году кампазытара Міколы Равенскага.

**80** год ад нараджэньня 23 красавіка 1886 году паэты й пісьменьніка Зьмітрака Бядулі-Ясакара.

**75** год ад сьмерці сялянскага паэты Паўлюка Багрыма.

**75** год ад нараджэньня 10 сьнежня 1891 году паэты Максіма Багдановіча.

**70** год ад нараджэньня 22 лютага 1896 году паэты, пісьменьніка й драматурга Кандрата Крапівы (Атраховіча).

**70** год ад нараджэньня 7 лістапада 1896 году паэты й пісьменьніка Міхася Чарота (Кудзелькі).

**60** год ад выхаду 14 верасьня 1906 году ў Вільні першага нумару тыднёвай газэты „Наша Доля".

**60** год ад выхаду 24 лістапада 1906 году першага нумару тыднёвай газэты ў Вільні „Наша Ніва".

**50** год ад выхаду ў Вільні 15 сьнежня 1916 году тыднёвай газэты „Гоман".

**40** год ад працэсу Лістападаўцаў у Менску, пачатага 5 сакавіка 1926 году.

**40** год ад заснаваньня ў Менску ў сакавіку-травені 1926 году й 35 год ад ліквідацыі ў сьнежні 1931 году Беларускага Літаратурна-Мастацкага Згуртаваньня „Узвышша".

**20** год ад заснаваньня 9 красавіка 1946 году ў Рэгензбургу Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня „Шыпшына".

**10** год ад сьмерці 13 жніўня 1956 году Якуба Коласа.

❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖

**Абавязкам кажнага Беларуса падтрымаць грашова собскую газэту „Беларуса"**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Address 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
**Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.**
Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкою — 6 дал. на год.

## Пашырайма праўду аб Беларусі

Галоўны нацыянальны абавязак беларускай палітычнай эміграцыі— пашыраць праўду аб Беларусі й Беларусах сярод народаў Вольнага Сьвету. Гэтае заданьне набірае асаблівае важнасьці яшчэ ў сувязі з тым, што савецкая прапаганда сеіць на Захадзе зусім хвальшывыя інфармацыі ня толькі аб сучаснасьці, але й аб гістарычнай мінуўшчыні Беларусі.

Найлепшай нагодай дзеля арганізаваньня інфармацыйнай і прапагандовай акцыі ў краінах Захаду бываюць розныя нацыянальныя ўгодкі, перадусім-жа ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Гэтыя ўгодкі, асабліва ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі даюць шырокія магчымасьці выклікаць зацікаўленьне беларускай нацыянальна-вызвольнай праблемай і шчырыя спачуваньні нашай нядолі ня толькі з боку грамадзкіх колаў, але й урадавых ды дзяржаўных дзейнікаў.

Дзякуючы інтэнсыўным стараньням Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, у вабедзьвюх палатах Кангрэсу ЗША на кажныя ўгодкі Акту 25 Сакавіка сэнатарамі й кангрэсмэнамі гавораца цэлыя дзясяткі прамоваў у вабароне нацыянальных і палітычных правоў беларускага народу, прадстаўнікі нашага духавенства бытуюць у вабедзьвюх палатах Кангрэсу з малітвай за Беларусь, рэзалюцыі, што прыймаюцца на сьвяткаваньнях нашых нацыянальных угодкаў, зачытваюцца ў Кангрэсе й друкуюцца ў Кангрэсавым Рэкордзе, а Віцэ-Прэзыдэнт ЗША на ўгодкі 25 Сакавіка звычайна прыймае ў сябе на адмысловай аўдыенцыі дэлегацыю Галоўнай Управы БАЗА. Дзякуючы захадам Галоўнай Управы й управаў Аддзелаў БАЗА, мэры гарадоў і губэрнатары штатаў, у якіх пражывае значная колькасьць Беларусаў, ужо традыцыйна абвяшчаюць афіцыйнымі пракламацыямі дзень 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі. Палітычнае значэньне ўсяе гэтае акцыі вялізарнае.

Вось і сёлета ўжо збліжаюцца 48-ыя ўгодкі абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнай дзяржавай. У сувязі з гэтым, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, гэтак і іншыя беларускія арганізацыі ўжо цяперака павінны натужыцца, каб нацыянальна-інфармацыйную акцыю сярод амэрыканскіх дзейнікаў яшчэ больш узмоцніць і паглыбіць.

Але ў галіне інфармаваньня пра Беларусь у англамоўных краінах мы маем і вялікія цяжкасьці. Гэта з прычыны нястачы адпаведнай літаратуры пра Беларусь у ангельскай мове. Сяньня мы змушаныя абыходзіцца аднэй-адзінай брашуркай прэз. Рады БНР Міколы Абрамчыка "Belorussia", што была выдадзеная ў Мюнхене ў 1963 годзе. Не зважаючы на тое, што гэтая брашурка вельмі-ж сьціплая й разьмерам, і вонкавым выглядам, аднак, як мы пераканаліся на фактах, яна робіць вялікую справу. Наколькі-ж большую адыгравала-б ролю больш шырокая й разнастайная інфармацыйная й навуковая літаратура ў ангельскай мове!

Таму астаецца адно вітаць нядаўную пастанову Галоўнай Управы БАЗА аб выдаваньні ў ангельскай мове пэрыядычнага часапісу "Byelorussian National Review". Даведваемся, што гэтая пастанова ўжо рэалізуецца й, трэба верыць, зрэалізуецца, але пад аднэй умовай — што нашае грамадзтва прыйдзе з належнай фінансавай дапамогай. А такі часапіс будзе каштаваць нямала: апрача друкарскіх коштаў высокатыражнага выданьня, дойдуць і немалыя кошты перакладаў на ангельскую мову. А каб такі часапіс належна выканаў сваё заданьне, ён мусіць выдавацца ўзорнай ангельскай мовай, а таму матарыялы мусяць быць перакладаныя кваліфікаванымі спэцыялістымі. Нажаль, мы пакуль што жывём яшчэ ў такіх ненармальных абставінах, што ўсе нацыянальныя патрэбы мусім фінансаваць грамадзкімі ахвярамі. Пакуль-жа няма іншага выхаду, грамадзтва ня можа адмовіцца ўзяць на сябе й гэты цяжар.

У 1968 годзе будзем адзначаць 50-гадовы юбілей Акту 25 Сакавіка. Хоць да гэтай юбілейнай даты яшчэ роўна два гады, але ўжо цяперака час узяцца за прыгатаваньне й выданьне ў ангельскай мове грунтоўнай працы пра БНР і тыя нацыянальна-палітычныя працэсы, што прывялі да Акту 25 Сакавіка. Зьяўленьне такой кнігі, як і выдаваньне заплянаванага Галоўнай Управай БАЗА часапісу ў ангельскай мове змогуць запоўніць тую вялікую пустату, якую гэтак балюча адчуваем сяньня мы ўсе ў нашай дзейнасьці навонкі.

## Барбары разбураюць, а паэты пратэстуюць

Пачнем з Таронта. У 1948 годзе, калі я сюды прыехаў, самы цэнтр гораду, апроч колькіх будынкаў, нагадваў запушчаную вёску. Сяньня яго не пазнаеш; некаторыя небаскробы павырасталі ўжо да 50 паверхаў. Нядаўна пабудавалі на 28 паверхаў вышыні ратушу, што нагадвае дзьве асобныя цыліндрычныя паловы, з „грыбом" у цэнтры. Якраз у суседзтве два кварталы займае гандлёвая фірма — „Ітанс", што таксама мае пляны перабудовы. Дзеля камплексу гэтай перабудовы спатрэбілася ёй старая ратуша, каторую жадае купіць ад гораду й суліць добрыя грошы. Грамадзянэ Таронта паднялі суцэльны пратэст супраць продажы ратушы, што зьяўляецца архітэктурным і гістарычным помнікам. Здаецца, што гарадзкая ўправа ня пойдзе насупраць волі сваіх „таксыпэраў", хоць „Ітанавы" мілёны даляраў надта-ж прынадныя й патрэбныя. Воля народу ў дэмакратычнай краіне мае сваю вагу.

Гэта ўсё прыгадалася мне, перачытваючы савецкую прэсу й асабліва тыя матар'ялы, што закранаюць пытаньне, як безаглядна маскоўскія варвары разбураюць архітэктурныя помнікі старажытнай Беларусі.

Праўда, нядаўна было навет створанае г. зв. рэспубліканскае таварыства для аховы старажытных беларускіх помнікаў. Але што яно робіць, калі партыйныя варвары безаглядна калечаць і нішчуць сьвятыні нашага мінулага. Каб поўнасьцю ўявіць сабе, якую шкоду маскоўскія калянізатары прынесьлі гісторыі нашай бацькаўшчыны, варта прывесьці гэтта даўгую вытрымку з артыкулу „Помнікі гісторыі й жывое жыцьцё", аўтарства дац. катэдры арх. менскай палітэхнікі Ул. Чантурыі (ЛіМ, 11 студзеня, 1966 г.):

„Балюча бачыць, калі помнікі архітэктуры, што перажылі стагодзьдзі, гінуць ужо ў нашы дні, гінуць у імя ўяўнага „ўпарадкаваньня", „абнаўленьня" й да г. п. Ці ёсьць, напрыклад, апраўданьне таму, што ўжо ў нашы дні былі зьнішчаны царква Благавешчаньня ў Віцебску, старажытнае Замчышча ў Менску?

„Амалоджаныя" такім чынам гарады страцілі самабытныя рысы, а ў сьвядомасьці часткі людзей думка аб непатрэбнасьці помнікаў культуры для сучаснасьці пасьпела моцна ўкараніцца. Ці не выхоўваем мы такім чынам іваноў, што ня памятаюць сваяцтва? Тэндэнцыя-ж да „абнаўленьня" структуры гарадоў за кошт зьнішчэньня старажытнасьцяў набыла шырокае распаўсюджаньне. Як ні дзіўна, але асаблівыя намаганьні праяўляюцца якраз у тых гарадох, дзе ваенныя разбурэньні, на шчасьце, не закранулі архітэктурных помнікаў.

Горадня, адзін са старажытнейшых беларускіх гарадоў. Тут захавалася шмат помнікаў дойлідзтва XII і пазьнейшых стагодзьдзяў. Адылі гэтыя ўнікальныя збудаваньні, якія маюць вялікую архітэктурна-мастацкую каштоўнасьць, засталіся без догляду, а некаторыя бязьлітасна зьнішчаюцца.

Нядаўна ў Горадні быў узарваны былы прыходзкі (фарны) касьцёл (пазьней гарнізонны сабор), што стаяў на рагу плошчы й вуліцы Савецкай. Касьцёл, пабудаваны ў XVI-XVII ст., належаў да ліку самых старажытных будынкаў гораду. У імя чаго быў зьнішчаны гістарычны помнік? На яго месцы разьбілі чэзлы сквэрык. Парушыўся ўвесь архітэктурны ансамбль цэнтру гораду, была страчаная раўнавага й вышынная гармонія самой плошчы...

Ні ў вадным іншым беларускім горадзе няма столькі помнікаў культуры розных эпохаў і стыляў, як у Горадні. Па іх вельмі добра можна прасачыць, у якіх умовах і пад якім уплывам разьвівалася беларуская архітэктура, як складваўся яе нацыянальны характар. Адылі з горыччу трэба сказаць, што ў Горадні бескляпотна паставіліся ня толькі да лёсу былога касьцёла. Сапсаваным дабудовамі аказаўся комплекс былога Брыгіцкага манастыра; яго званіцу, амаль скульптурны помнік барока, выдатны арыентар усяго ансамблю, разабралі. Зьнішчаны цікавы помнік жылой архітэктуры XVIII ст., так званы "Дом Рыбака". Такі-ж лёс напаткаў многія будынкі былой „Гарадніцы", у тым ліку жылыя дамы рабочых — першыя ўзоры масавага тыповага будаўніцтва ў Беларусі.

У Магілёве ў 50-х гадох былі разабраны гарадзкая ратуша і Багаяўленскі сабор — унікальныя й характэрныя помнікі грамадзянскага і культурнага дойлідзтва XVII ст. Праўда, помнікі былі разбураны яшчэ ў часе вайны, але была магчымасьць аднавіць адзін і закансэрваваць другі.

Помнікі ня дзеляцца на абласныя й раённыя, іх лёс не павінен залежаць ад таго, дзе яны знаходзяцца. Але чаму абласныя таварышы раўнадушна назіралі, як у Слаўгарадзе псуюць дабудовамі храм-помнік архітэктуры XVIII ст., як у Быхаве разбураюць былы палац Сапегі, а ў Гальшанах — цэлы ансамбль палацу? Самае дзіўнае, што ўсе гэтыя помнікі лічацца пад аховай дзяржавы.

У разбурэньні помнікаў больш за ўсіх, бадай што, вылучаюцца Паставы. Тут за кароткі час так „перабудавалі" гістарычны цэнтр, што цяпер пра яго архітэктурную каштоўнасьць і гаворкі быць ня можа... Разбураны былыя гандлёвыя рады, зьнішчаны цікавыя жылыя дамы...

...Страціць назаўсёды Ружанскі палацавы ансамбль, гэты вядомы архітэктурны помнік барока, слава пра які выйшла далёка за межы Беларусі, мы ня маем права. Яго трэба захаваць. Ружаны будуюцца, а палац, што знаходзіцца на высокім пагорку, пануе над гарадзкой забудовай. І гэта яшчэ адзін довад, каб зьвярнуць на ансамбль увагу..."

Гэтулькі Ул. Чантурыя пра найбольш ведамыя й каштоўныя помнікі слаўнага мінулага Беларусі. А колькі-ж тысячаў разбураецца й руйнуецца меншых, пра каторыя ніхто не памінае? Запраўды чалавека жах бярэ, як будзе выглядаць твар нашае бацькаўшчыны, калі маскоўскія калянізатары пагаспадараць там яшчэ зь дзьве дэкады. Ператвораць нашу краіну ў архітэктурную пачвару, сатруць усе сьляды мінулага, каб, як кажа аўтар, „іваны ня памяталі сваяцтва". Калянізатары й іхныя цівуны канчаткова павырываюць гістарычна-культурнае карэньне паняволенага народу.

Варварскае вынішчэньне культурна-архітэктурных помнікаў маскоўскімі калянізатарамі ў Беларусі апошнім часам ускалыхнула гневам ці адно патрыятычнае сэрца. Хоць гнеў гэты й ня можа поўнасьцю разгарэцца, бадай часам і замаскаваны; гэтак, прыкладам паэта Ніл Гілевіч балее над вынішчэньнем гістарычных помнікаў Беларусі ў сваім вершы, гэтта прыведзеным поўнасьцю:

*У старажытным гарадку над*
*Гайнаю,*
*Ля зруйнаванай кляштарнай*
*сьцяны,*
*Я думаю, як дзіка, як нядбайна мы*
*Парою ставімся да старыны.*

*Чым ганарыцца перад сьветам*
*варта нам,*
*Чым даражыць павінен чалавек, —*
*Ірвём, грызём, руйнуем*
*экскаватарам —*
*Тэхнічны, балазе, дваццаты век!*

*Гісторыю трымаюць у пашане ўсе.*
*Навошта-ж безаглядна так*
*наўсьцяж*
*Мы разбураць мінулае сьпяшаемся.*
*Як-бы яно — галоўны вораг наш!*

*Хіба ня з працы гаратліўцаў-*
*прадзедаў*
*Яно вякамі паўставала тут!*
*Чаму-ж няўдзячна гэтак*
*абакрадзена*
*Зямная памяць іх зямных пакут?*

*Асьцеражней, таварыш, са*
*сьвятынямі.*
*Чым замяніць іх думаеш, скажы!*
*Страшней за ўсё, як робіцца*
*пустынямі*
*Палеткі плодныя людзкой душы.*

**К. Акула**

## ЗША Й ЭКАНАМІЧНЫЯ ПЭРСПЭКТЫВЫ 1966 ГОДУ

Калі вайна ў Ветнаме ня спыніцца, яна застанецца галоўным фактарам грамадзкага жыцьця Амэрыкі і ў новым 1966 годзе.

Кажная вайна, як ведама, апрача крыві й сьлёз, каштуе грошай. Якія-ж магчымасьці мае эканоміка Задзіночаных Штатаў даць рады ў вабставінах зацягнутага ветнамскага канфлікту? Інакш кажучы, які ўплыў можа мець вайна ў Ветнаме на штодзённы матар'яльны быт амэрыканскага грамадзяніна? Ці стаіць перад грамадзтвам Задзіночаных Штатаў пытаньне выбараў, як кажуць, паміж гарматамі й маслам?

На думку вялікае большыні эканамістых, гэткае дылемы тымчасам няма. Эканоміка Амэрыкі ўважаецца за даволі моцную, каб ня толькі вытрымаць цяжар ветнамскага канфлікту, але й адначасна разьвіваць ды ўмацоўвацца. Гэткі пагляд на эканамічныя пэрпэктывы 1966-га году быў выказаны Згуртаваньнем Амэрыканскіх Эканамістых, што правяло ў сьнежні 1965 г. свой гадавы зьезд.

Аптымізм што да здароўя амэрыканскае эканомікі і ейнае здольнасьці забясьпечваць патрэбы грамадзтва разам з патрэбамі абароны — падмацоўваецца некаторымі сьвежымі дадзенымі. Прыканцы сьнежня, прыкладам, бюро сацыяльнага забясьпечаньня паведаміла, што напрацягу 1965-га году дзяржава выплаціла грамадзянам Амэрыкі пэньсыяў на суму 18 мільярдаў 300 мілёнаў даляраў. Гэта перавышае сацыяльнае забясьпечаньне 64-га году на два міліярды сто мілёнаў даляраў. Гэтаксама ў сьнежні было абвешчана, што Дэпартамант Здароўя, Асьветы й Дабрабыту набольшыць у новым годзе свой бюджэт, які ўжо летась складаў блізу 29 міліярдаў даляраў.

Праўда, усялякая здольнасьць, усялякае багацьце мае свае межы. І таму некаторыя эканамістыя перасьцерагаюць, што калі вайна ў Ветнаме яшчэ больш зацягнецца, дык плян Прэзыдэнта Джансана разбудоўваць г. зв. „Вялікае грамадзтва", а гэта плян масавае дзяржаўнае дапамогі на розныя патрэбы народнага жыцьця, — плян гэты давядзецца скарачаць і абрэзваць. Гэтак, прыкладам, Дэпартаманты Гандлю й Сельскае Гаспадаркі ўжо запляновалі, невялікае праўда, але ўсё-ж зьмяншэньне сваіх бюджэтаў.

У Амэрыцы адбываецца цяпер абмеркаваньне агульнага дзяржаўнага бюджэту на наступны фіскальны год. Бюджэт гэты ўздымаецца да новага ўзроўню — 112 міліярдаў даляраў. З гэтага плянуецца прызначыць на ваенную абарону прыблізна 60 міліярдаў даляраў.

Апошнімі двума гадамі бюджэтныя асыгнаваньні на ваенную абарону, у сувязі з вайной у Ветнаме, узрасьлі на 27 працэнтаў. Падвышэньне досыць вялікае. Адкуль-жа тады бярэцца ў эканамістых аптымізм што да агульных пэрспэктываў эканомікі ў 1966-м годзе? А справа ў тым, што 60 міліярдаў даляраў, заплянаваных на абарону, будзе станавіць адно крыху больш, як 8 працэнтаў ад усяго нацыянальнага прадукту Амэрыкі 66-га году. Такая ваенная нагрузка на эканоміку, уважаюць эканамістыя, не абмяжуе задаваленьня грамадзкіх патрэбаў. Варта прыгадаць тут, што Амэрыка часамі найбольшага гарту Карэйскае вайны, у 1953 годзе, выдаткоўвала на ваенныя мэты куды больш, чымся цяпер, — трынаццаць з палавінаю працэнтаў ад свайго нацыянальнага прадукту.

Новы бюджэт Задзіночаных Штатаў мае быць зацьверджаны Кангрэсам да канца студзеня. Цяпер, як ведама, амэрыканскі ўрад робіць інтэнсыўныя дыпляматычныя захады праз Ватыкан, Варшаву, Маскву й іншыя сталіцы сьвету, каб даведацца, якія ёсьць шансы на замірэньне ў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі. Няведама тымчасам, што за вынікі гэтыя захады дадуць. Ясна, аднак, што яны высьвятляць намеры кітайскіх і ветнамскіх камуністых, а гэтым самым вызначаць праводжаную цяпер у Амэрыцы дыскусію над пытаньнем новага бюджэту й ваенных асыгнаваньняў.

**Я. З.**

## ФІНАНСАВАНЬНЕ ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС"

Ніжэй падаём грашовыя сумы фінансаваньня газэты „Беларус" паасобнымі беларускімі асяродкамі за кадэнцыі папярэдняй Галоўнай Управы БАЗА — ад 1 чырвеня 1963 да 18 верасьня 1965 году. Дзеля таго, што шмат якія з нашых суродзічаў, што ахвяравалі навет большыя сумы на Выдавецкі Фонд „Беларуса", не жадаюць, каб былі названыя іхныя прозьвішчы, справаздача падаецца адно ў вагульных ліках. І так за ўспомнены пэрыяд часу на Выдавецкі Фонд „Беларуса" было атрымана:

1. Ад Згуртаваньня Беларусаў Канады ў якасьці пакрыцьця коштаў друкаваных у газэце „Вестак з Канады" ........... $ 1.956,11
2. Сябры Акруговага Аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку ...... $ 2.937,80 (У гэтым падпіска — 614.80 дал. і ахвяры ............... $ 2.323,00)
3. Сябры Аддзелу БАЗА ў Клīўленд ................... $ 550,80 (У гэтым падпіска й продаж газэты сп. А. Строчанем — 341,93 дал. і датацыя Аддзелу БАЗА — 151,43 дал.).
4. Сябры Аддзелу БАЗА ў Дэтройт (падпіска й ахвяры) .................... $ 550,50
5. Сябры Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі (падпіска й ахвяры) ................... $ 353,00
6. Сябры Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной (падпіска й ахвяры) ........................ $ 134,00
7. Сябры БАЗА ў Лёс Анджэлес ........................... $ 20.00
8. Падпіска й продаж газэты ў Аўстраліі ................ $ 81,60
9. Падпіска й продаж газэты ў Ангельшчыне ............ $ 14,50
10. Аплата рэклямаў і зварот коштаў за клішы .......... $ 242,72

Усяго разам — $ 6.783,59

Гэтае сумы далёка яшчэ не хапала для пакрыцьця коштаў газэты на працягу вышэй пададзенага пэрыяду, а таму Галоўная Управа БАЗА была змушаная пакрываць нястачы із собскае касы.

Як бачым, выдатны ўдзел у фінансаваньні газэты ўзялі на сябе Беларусы Канады й Нью Ёрку. Затое Аддзелы БАЗА, за вынятакам Нью Ёрку ды невялікага Аддзелу ў Дэтройце, выказаліся вельмі сьціплым і далёка непрапарцыянальным да колькасьці сваіх сяброў удзелам у фінансаваньні газэты. У гэтым галоўная прычына, што сяньня фінансавае палажэньне газэты „Беларус" вельмі крытычнае.

**А. Міцкевіч**
**Скарбнік газэты „Беларус"**

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ 48-ЫХ УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

Сёлетнія 48-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка адзначаюць супольна Галоўная Управа, Управа Акругі Нью Ёрк і Управа Аддзелу ў Нью Джэрзі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ўрачыстай Акадэміяй, якая адбудзецца ў нядзелю 27 сакавіка 1966 г. а гадзіне 2:30 папаўдні ў Музычнай Залі Гатэлю „Білтмор" (Biltmore Hotel, Madison Avenue & 43rd Street, New York 17, N. Y.).

Абавязкам кажнага Беларуса Нью Ёрку, Нью Джэрзі й аколіцаў прыняць удзел у нашым найвялікшым нацыянальным сьвяткаваньні.

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



# У ПАНЯВОЛЕНАЙ БЕЛАРУСІ

## НАВУКОВЫЯ КАДРЫ БССР: КОЛЬКАСЬЦЬ І ЯКАСЬЦЬ

**(Паводля артыкулу Ф. Капуцкага й А. Кандыбы ў часапісе „Коммунист Белоруссии" № 10, 1965, бб. 61-66).**

**Колькасьць**

Працягам апошніх трох год у Беларусі паўсталі гэткія новыя навукова-дасьледніцкія ўстановы, як Інстытут эканомікі й эканоміка-матэматычных мэтадаў плянаваньня, Інстытут тэхнічнай кібэрнэтыкі, Інстытут гэнэтыкі й цыталёгіі, Інстытут ядзернае энэргетыкі й інш. Цяпер, піша часапіс „КБ", у Беларусі налічваецца 183 навуковыя цэнтры і 27 вышэйшых навучальных установаў. Што да ліку навукоўцаў, дык іх усіх разам звыш 13 тысячаў — зь іх 223 доктары і 2.811 кандыдатаў навук (ступень кандыдата навукаў адпавядае менш-больш ступені „мастэра" ў Амэрыцы).

**Якасьць**

„Аднак, ня ўсе інстытуты, катэдры, аддзелы навуковых установаў, — чытаем далей у „Камуністе Беларусі", — аддаюць патрэбную ўвагу справе рыхтаваньня навуковае зьмены. Дзеля гэтага якраз адчуваецца нястача высокакваліфікаваных навуковых кадраў. У Беларусі сярод навуковых працаўнікоў доктары навукаў складаюць адно 1,8 працэнта, кандыдаты навукаў — 21,3 працэнта. Асабліва мала вучоных, што маюць ступені ў галіне сельскагаспадарскіх, эканамічных, пэдагагічных навукаў. Амаль чвэрць дэканаў і загадчыкаў катэдраў вышэйшых навучальных установаў ня маюць навуковых ступеняў, ненармальна й тое, што ў рэспубліцы ўсяго тры доктары маюць менш за сорак год, а рэшта ў веку звыш 50 год. У Мазырскім і Віцебскім пэдагагічным, Магілеўскім машынабудаўляным і іншых вышэйшых навучальных установах, у шэрагу навукова-дасьледніцкіх інстытутаў няма аніводнага доктара навукаў, ніводнага прафэсара.

„На некаторых галоўных тэарэтычных катэрах хэміка-тэхналягічнага факультэту Беларускага тэхналягічнага інстытуту няма аніводнага выкладчыка з навуковай ступеняй. У Беларускім палітэхнічным інстытуце з 37 выкладчыкаў хэмічных катэдраў толькі чатыры маюць ступені кандыдатаў хэмічных навукаў.

„Усё гэта, зразумела, адмоўна дзеіць на якасьць рыхтаваньня спэцыялістых і правядзеньня навуковых досьледаў."

**Прычыны**

„Галоўная прычына наяўных недахопаў палягае ў благой арганізацыі дзейнасьці шмат якіх нашых асьпірантураў. Вялікую шкоду справе рыхтаваньня навуковых кадраў спрычыняе непаважны падыход да камплектаваньня асьпірантуры*). Часамі набор праводзіцца без патрэбнага азнаямленьня зь людзьмі, без выяўленьня іхных здольнасьцяў да навуковае дзейнасьці. Дзеля гэтага ціпэдчас у асьпірантуру пападаюць выпадковыя людзі, якія пасьля слаба спраўляюцца з навуковай працай."

**Я. Запруднік**

*) Асьпірант у амэрыканскай сыстэме гэта — студэнт, што мае бакаляўрат, і вучыцца далей, інакш кажучы, — graduate student.

## СПАДЧЫНА АДАМА БАБАРЭКІ

У газэце „Літаратура й Мастацтва" за 1-га кастрычніка сёлета кандыдат філязофскіх навук Ул. Конан падае шмат цікавага пра ўзвышэнскага крытыка Адама Бабарэку, што, пражыўшы ўсяго 39 гадоў, атрымаў беспаваротную „пуцёўку" ў канцлягер.

„Нядаўна я пазнаёміўся, — піша Конан, — з малавядомымі артыкуламі пісьменьніка, а таксама зь яго асабістым архівам, які захоўваецца ў Маскве ў яго жонкі Ганны Іваўны. Шмат у іх ня толькі цікавага, а й каштоўнага для разуменьня літаратурнага жыцьця 20-30-х гадоў на Беларусі.

Зь неапублікаваных матар'ялаў крытыка найбольшую цікавасьць маюць артыкулы „Паэзыя як выяўленьне" (некаторыя думкі аб пралетарскай школе паэзыі), „Супраць ветру (Хто такі Язэп Пушча)" і чарнавы накід артыкулу пра паэму Ул. Дубоўкі.

Калі выйшла з друку паэма Ул. Дубоўкі „І пурпуровых ветразяў узьвівы", то вульгарызатары накінуліся на яе, займаючыся па сутнасьці не літаратурнай крытыкай, а палітычнай дыскрэдытацыяй паэты. І толькі Бабарэка дае высокую ацэну паэмы, якая, на яго думку, сьветчыла аб ідэйна-эстэтычнай сталасьці маладой беларускай савецкай паэзыі. У гэтай паэме Дубоўка асудзіў вульгарызатарскі падыход да мастацтва, выступіў за высокую мастацкую культуру, за выкарыстаньне мастацкае спадчыны мінулага й вусна-паэтычнай творчасьці ў першую чаргу. Вастрыё сатыры паэты было накіравана супраць бюракратаў, бяспрынцыповых кар'ерыстых і спрашчэнцаў ад літаратуры...

У канцы 20-х гадоў паэта Язэп Пушча вельмі хваравіта рэагаваў на некаторыя адмоўныя зьявы грамадзка-палітычнага жыцьця, у сувязі з тым у яго зьявілася некалькі ўпадніцкіх вершаў. Замест аб'ектыўнага аналізу творчасьці паэты крытыкі А. Сянкевіч, Т. Глыбоцкі, Л. Бэндэ й некаторыя іншыя пачалі бессаромнае цкаваньне Язэпа Пушчы. У гэтых умовах патрэбна была грамадзянская мужнасьць, каб выступіць у вабарону паэты. Яна была ў Адама Бабарэкі. У артыкуле „Супраць ветру" ён выступае ў вабарону Я. Пушчы".

Нявыпадкова Якуб Колас, як паведамляе Максім Лужанін, высока ставіў Адама Бабарэку як крытыка, адзначаючы, што ён „чужых думак не пераказваў, свае меў."

„Жыцьцёвы й літаратурны шлях Адама Бабарэкі абарваўся рана. Але й тое, што ён пасьпеў зрабіць, павінна стаць прадметам аб'ектыўнай ацэнкі савецкай грамадзкасьці. Думаю, што насьпела неабходнасьць выдаць кніжку яго выбраных твораў, — заканчвае Ул. Конан.

**М. Козыр**

## ПА КАЛГАСАХ І САЎГАСАХ

Нас зацікавіла цяперашняя калгасна-саўгасная гаспадарка ў БССР. У менскай газэце „Зьвязда" зьмешчаныя дзьве табліцы: „Ход палявых работ у калгасах і саўгасах рэспублікі". У ваднэй табліцы — стан на 15 верасьня, а ў другой — на 25 верасьня сёлета.

І вось з табліцы на 15 верасьня выглядае, што яшчэ было ня зжата звыш 20% збожжавых і зерна-бабовых расьлін, а грэчкі каля 50% па ўсёй БССР; бульбы капаць амаль не пачыналі; насенны лубін амаль увесь на пні; кукурузы сабрана каля 25%; пасеяна азіміны каля 45%; узарана зябліва каля 24%. Характэрна, што вобласьці Віцебская, Магілеўская й Гомельская, якія адстаюць з уборкай збожжа, ідуць наперадзе ў вабмалоце, а вобласьці Берасьцейская, Горадзенская й Менская, якія наперадзе пры ўборцы, адстаюць з абмалотам. Пахвалу, ведама, атрымаюць тыя, якія першыя выканаюць пастаўкі збожжа, не зважаючы на тое, колькі зерня яны пакінуць на полі.

Паводля табліцы на 25 верасьня, яшчэ стаяла збожжа нязжатага: у Віцебскай вобласьці — 13%, у Гомельскай — 13%, у Магілеўскай — 19%, у Берасьцейскай і Горадзенскай — па 8%, у Менскай — 10%. Яшчэ стаялі нязжатыя каля 30% грэчкі (у цэлай БССР), у Віцебскай, Магілеўскай і Менскай вобласьцях — амаль увесь насенны лубін, а ў астатніх трох вобласьцях — каля 70%, і каля 40% кукурузы. Выкапана каля 15% бульбы, азіміны пасеяна каля 72%, узарана зябліва каля 36%.

Насоўваюцца важнейшыя пытаньні. Што астаецца ад збожжа, якое перастоіць амаль два месяцы? Што з таго лубіну, які стаіць які пад васеньнімі дажджамі й досыць вялікімі прымаразкамі, які пад канец верасьня ўжо заўсёды бываюць. Ці можа быць добры ўраджай азіміны позьняга севу? Якая карысьць ад зябліва, якое заворваецца ў кастрычніку ці ў лістападзе? Адказы на ўсе гэтыя пытаньні толькі адмоўныя.

Перастоянае збожжа зваліцца з пня. Насеньне лубіну зьмерзьне й ня будзе прыдатным для севу. З позьняга севу, звычайна, благі ўраджай. На позьнім зябліве нельга чакаць нармальнага ўраджаю на наступны год, бо калі-б зямля была й добра ўгноеная, то збожжа будзе заглушацца пустазельлем.

Пры такіх акалічнасьцях добрага ўраджаю на наступны год аніяк чакаць нельга. І яго, пэўне-ж, ня будзе, так як і ня было за ўсе гады йснаваньня калгасаў і саўгасаў.

**М-іч**

## СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ УКРАІНЫ

22 студзеня сёлета споўнілася 48 год ад абвешчаньня ў 1918 годзе Украінскай Народнай Рэспублікі незалежнай дзяржавай і 47 год ад Акту Саборнасьці Украіны — задзіночаньня ў 1919 годзе ўсіх украінскіх земляў у ваднэй Украінскай Народнай Рэспубліцы.

Сьвяткаваньне гэтых угодкаў, у сьціплай форме таварыскай сустрэчы, ладзілі Галоўная Управа Задзіночаньня Прыхільнікаў Украінскай Народнай Рэспублікі ў ЗША й Управа Таварыства Прыхільнікаў Украінскай Нацыянальнай Рады ў Нью Ёрку ў залі Украінскага Катэдральнага Сабору ў Нью Ёрку ў сыботу 22 студзеня сёлета.

Урачыстасьць пачалася малебенам за ўкраінскі народ, які быў адслужаны архіяпіскапам Мсьціславам у суслужэньні трох сьвятароў і аднаго дыякана. Малебен быў папярэджаны глыбока патрыятычным казаньнем архіяпіскапа Мсьціслава.

Тады-ж адбылася ўрачыстая Акадэмія, якую адкрыў уступным словам старшыня амэрыканскага Прадстаўніцтва Выканальнага Органу Украінскай Нацыянальнай Рады дыр. Іван Крамарэнка.

Зь вялікай увагай і хваляваньнем прысутныя выслухалі адчытаныя із сцэны дзяржаўніцкія ўнівэрсалы: І. Трэйці Унівэрсал, якім Украіна была абвешчаная Украінскай Народнай Рэспублікай; 2. Чацьверты Унівэрсал з 22 студзеня 1918 году, якім Украінская Народная Рэспубліка была абвешчаная самастойнай і незалежнай дзяржавай; 3. Унівэрсал Саборнасьці Украіны з 22 студзеня 1919 году, якім быў абвешчаны акт задзіночаньня ўсіх украінскіх земляў (Наддняпранскай Вялікай Украіны, Галіччыны, Букавіны й Закарпацкай Украіны) — у вадзін дзяржаўны арганізм — Украінскую Народную Рэспубліку.

Пасьля гэтага выступіў з прамовою д-р М. Галій, які ў прыгожых і глыбака хвалюючых словах падчыркнуў гістарычную важнасьць абвешчаньня вольнай і незалежнай украінскай дзяржавы.

У мастацкай частцы малады барытон Юрка Федарыў і сп-ня Ганна Шэрэй прыгожа прапяялі вязанку ўкраінскіх народных песьняў і песьняў на словы ўкраінскіх паэтаў.

Далей распачаўся супольны банкет, падчас якога гаварыліся прывітальныя прамовы прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў і прадстаўнікоў украінскіх арганізацыяў. Першым прамаўляў ад імя Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня д-р Ст. Станкевіч. Ён зьвярнуў увагу на створаныя ў ходзе старэйшай і навейшай ды новай гісторыі цесныя палітычныя й культурныя беларуска-украінскія ўзаемадачыненьні й прыязнь, якія — цьвердзіў прамоўца, — павінны ўсьцяж замацоўвацца й паглыбляцца ў нацыянальным ітарэсе абодвых суседніх і братніх народаў. Апрача д-ра Ст. Станкевіча, на ўрачыстасьці быў прысутны віцэ-старшыня Ньюёркаўскай Акругі БАЗА сп. А. Шукелайць. Прыгожую й глыбокую зьместам прывітальную прамову сказаў прадстаўнік грузінскага грамадзтва прафэсар Г. Накашыдзэ.

Асабліва ўрачыстым быў мамэнт, калі старшыня І. Крамарэнка прывітаў прысутных у залі сяброў Украінскай Цэнтральнай Рады — першага ўраду Украінскай Народнай Рэспублікі: праф. І. Паліводу, інж. К. Туркалу, д-ра Я. Зозулю, праф. В. Прыходзьку, інж. В. Дыберта й няпрысутнага найстарэйшага векам (87 год) праф. Б. Мартаса — былага прэм'ера Украінскай Народнай Рэспублікі.

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ У КАСЬЦЕЛЕ

Сёлета, як паведамлялі пра гэта часапісы „Зьніч" і „Божым Шляхам", Ватыкан прызнаў беларускую мову за мову Літургіі ў беларускай каталіцкай багаслужбе.

Пераглядаючы газэту „Наша Ніва", я знайшоў гэткую нататку ў ёй (№ 2, 13/26/.1 . 1907):

**„Беларуская мова ў касьцёле.** Папеж Рымскі прыслаў усім біскупам каталіцкім у Расеі цыркуляр, каб ксяндзы па касьцёлах казалі навуку і вучылі катэхізму ў тэй мове, якой гавораць парафіяне меж сабою. Такім парадкам Беларусы, Ліцьвіны, Украінцы — каталікі будуць магчы слухаць казаньне ў роднай мове. І ад гэтага часу „простая мова" атрымала тое самае права ў касьцёлах, што й панская. Можа цяперака Бог дачуецца й пра гора беларускага мужыка."

**Я. З.**

# Паэзія Максіма Танка 1965 году

Кастрычніцкі нумар часапісу „Полымя" адкрываецца вялікім цыклем новых вершаў Максіма Танка, гэтак і названым „Новыя вершы". Такі-ж цыкль і пад такім-жа загалоўкам знаходзім і ў лютаўскім нумары „Полымя". І гэтак кажны год Максім Танк друкуе на балонах рэдагаванага ім-жа часапісу па два вялікія цыклі найнавейшых сваіх вершаў, якія ўжо шмат пазьней выходзяць асобнымі зборнікамі. Гэткім парадкам прыхільнікі Танкавай паэзіі маюць добрую магчымасьць адразу-ж сачыць за ўсімі ейнымі навінкамі.

А сачыць ёсьць за чым у сяньняшняй Танкавай творчасьці. Паэта ўжо ад некалькі год вызваліўся із службовай ролі для партыі, якую, трэба сказаць адкрыта, ён выконваў не за страх, а за сумленьне ў гады г. зв. культу асобы й якая скоўвала ягоны талент ды звужала кола творчых магчымасьцяў гэтага нязвычайнаг здольнага паэты. Цяперака-ж паэзія Танка, неабмяжоўваная дырэктывамі зьверху, заясьнела новым і зыркім блескам. Рэвалюцыйны патас, нярэдка штучны й шаблённы, і публіцыстычную лёзунговасьць, якімі была перагрувашчаная ягоная паэзія ў часы гэнага „культу", цяперака замянілі спакойная развага, жыцьцёвая праўда й глыбокая філязафічная думка. Падобна як і наагул у творах сучасных беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, у вершах Танка асабліва часта выступае ідэя чалавека й чалавечнасьці, як антытэза да адмаўленьня гэтае чалавечнасьці ў часы „культу асобы". Апрача гэтага, праблемы дабра, праўды й справядлівасьці, звычайна ў іхнай супрацьпастве да зла, хвальшу й крыўды, захапленьні харастгвом прыроды, разважаньні аб існасьці паэзіі й ейнай ролі ў жыцьці людзей і народаў — вось тэмы, найчасьцей апрацоўваныя ў сучасных Танкавых вершах. Пры дапамозе сьмелых і арыгінальных мэтафараў ды іншых мастацкіх прыхваткаў гэтыя ідэі, думкі й пачуцьці Танк выказвае вельмі пуката й канкрэтна. Вось, прыкладам, зь якой выразнасьцяй выказаная сіла мацярынскае любові ў кароцунькім мініятурным вершыку „Голас":

*Голас незнаёмага можа зьдзівіць,*
*Голас друга — на хвіліну спыніць,*
*Голас любай—сагрэць сонцам лета,*
*Голас маці—вярнуць з таго сьвету.*

Танку асабліва ўдаюцца тыя вершы, у якіх ён гэтыя агульналюдзкія ідэі й пачуцьці выказвае пры дапамозе паэтычных вобразаў, узятых із зьяваў роднае прыроды, быту, фальклёру й наагул з жыцьця беларускае вёскі. Не ў дэкляратыўных запэўненьнях аб любасьці да роднага краю й не ў вабстрактных захапленьнях ягоным харастгвом, але ў вадчуваньні вось гэтага арганічнага зраднеўньня з роднай глебай і выяўляецца Танкаў патрыятызм і нацыянальны калярыт ягонае паэзіі. Зылюструем гэтую асаблівасьць Танкавай паэзіі на прыкладах із сёлетніх ягоных вершаў. Вось адзін з такіх вершаў, надрукаваны без загалоўку ў лютаўскім нумары „Полымя":

*Ах, чаму я, калі нарадзіўся,*
*Чараўніцтву ў бабулі ня*
*ўчыўся!*

*Не падгледзеў, якою вадою*
*Акрапляла яна ўсё ліхое;*

*Чым акурвала хату і сені,*
*Адганяючы змрочныя цені;*

*Скуль прыносіла траваў дрымучых,*
*Каб вярнуць сон спакойны, гаючы;*

*Што прыкладвалі яе рукі*
*Ад сьмяротных укусаў гадзюкі*

*І абводзіла крэйдай якою*
*Сьвет ад злыбеды, ад неспакою...*

*А мо гэта — і лепш. Бо, ніколі*
*Ня спытаўшы ні гора, ні болю,*

*Не адчуўшы ні жару, ні лёду, —*
*Што сказала-б ты, песьня, народу?*

Гэткі верш мог напісаць адно паэта Беларус і адно сын вёскі. На фоне самабытных фальклёрных вобразаў і зьяваў выказвае паэта агульналюдзкую думку: паэта, што сам ня пэражыў народнага шчасьця й гора, нічога не патрапіць сказаць народу. А вось у мініятурным вершыку, зьмешчаным у кастрычніцкім нумары „Полымя", выказвае паэта думку аб тым, што адно паэзія, арганічна зьвязаная з роднай глебай, можа быць запраўднай і паўнацэннай паэзіяй:

*Скрыпіць Зорны Воз ля аселіц.*
*Яго па мяне прыслалі*
*На нечае ехаць вясельле,*
*Пакінуўшы родныя далі.*

*Ды, каб я і даў сваю згоду,*
*Хто возьме рог — Нёман грымучы,*
*Цымбалы — жытнёвыя ўсходы,*
*Бор Пількаўскі—смык мой пявучы?*

*Бязь іх-жа, бяз гэтых прыладаў —*
*Няхай традыцыйных і звыклых —*
*Якая зь мяне каму радасьць,*
*Які зь мяне ў чорта музыка!*

Нярэдка нейкі тыпова беларускі вобраз прыроды, або эпізод зь вясковага быту, або ўзноў нейкая характэрная сцэна із сялянскае земляробскае працы служаць ужо ня толькі фонам або мастацкім сяродкам для канкрэтызацыі аўтаравае думкі ці ідэі, а існуюць у вершы самыя для сябе, як зусім самастойныя тэмы. У сёлетняй Танкавай паэзіі гэткімі можна назваць вершы „Пах баравіковы", „Аўсяны кісель", „На кірмашы".

Спасярод сучасных беларускіх паэтаў Максім Танк належыць да найбольш няўрымсьлівых шукальнікаў штораз новых спосабаў мастацкае канкрэтызацыі сваіх думак і пачуцьцяў. У бязупыннай эвалюцыі свайго таленту ён стараецца быць заўсёды непаўторным, самабытным і арыгінальным. Ён любуецца кажным новым вобразам, кажным сьмелым эпітэтам ці прыраўнаньнем, кажнай новай музыкай слова. Вось, прыкладам, сплецены з адных мэтафараў вобраз наднарачанскае сасны:

*Так захацелася пагаварыць*
*з сасной —*
*Даўнейшаю сяброўкаю маёй,*
*Якая недзе на сваіх галінах*
*Калыша сонца з клёкатам*
*бусьліным*
*І ценем стромага свайго ствала*
*Час адзначае жыхаром сяла.*

Або вось такі-ж мэтафарычны вобраз у мініятурным вершыку „Хусткі":

*Хусткі дзяўчат на галовах цьвітуць.*
*Калі-ж адцьвітуць — маладзіцы*
*нясуць*
*У іх, завязаўшы крыж-накрыж рагі.*
*Зязюльчыны песьні зь цяністага*
*— бору.*
*Вячэрнія росы, паўночныя зоры,*
*Цяжар свайго шчасьця, каханьня,*
*тугі.*

Ужо гэтых прыкладаў хопіць, каб заўважыць, на колькі канкрэтнавобразная Танкава паэтычная мова. Не зважаючы на ейную багатую мэтафарычнасьць, мова гэтая й вельмі простая ды натуральная, часамі быццам жыўцом узятая з народнае гутаркі. І ў гэтай вось прасьціні й натуральнасьці паэтычнае мовы, у арыгінальнасьці й непаўторнасьці вобразаў, у іхным нацыянальным калярыце, у звонкай музыцы слова хіба й хаваецца сакрэт, чаму Танкава паэзія гэтак глыбака прамаўляе да чытача. Пры гэтым, да чытача перадусім беларускага, які й сам гаворыць і думае тымі-ж самымі тыповымі для беларускай мовы вобразнымі й гукавымі катэгорыямі. Вершы Танка перакладаюцца на мовы народаў Савецкага Саюзу, а некаторыя й на мовы іншых краёў. Але адчуць увесь чар і хараство Танкавай паэзіі зможа адно той, хто да самага кораня пазнаў беларускую народную стыхію.

**Ст. Крушыніч**

© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



## АГУЛЬНЫ СХОД БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

Не зважаючы на благую пагоду й бездарожжа, сябры Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі сабраліся ў залі царкоўнага будынку ў Нью Брансьвіку ў нядзелю 23 студзеня сёлета й правялі чарговы гадавы перавыбарны агульны сход. У сходзе прынялі ўдзел і віталі прысутных старшыня Галоўнай Управы БАЗА інж. М. Гарошка, віцэ-старшыня Ньюёркскай Акругі БАЗА сп. А. Шукелайць, Галоўны Кіраўнік ЗБМА сп. А. Лысюк і старшыня Царкоўнай Рады мясцовага прыходу Жыровіцкае Божае Маці сп П. Кажура.

На старшыню сходу быў выбраны д-р В. Васілеўскі, на сакратара сп. Р. Войтэнка. Інж. М. Гарошка быў запрошаны ў прэзыдыюм сходу ў характары ганаровага сябры.

Із справаздачы старшыні Аддзелу сп. С. Гутырчыка было відаць, што ў мінулым годзе арганізацыя жыва рухалася. Паседжаньні Управы Аддзелу адбываліся штомесяца. На іх дыскутаваліся ня толькі бягучыя нутраныя справы, але й справа прыцягваньня добрых дачыненьняў з Галоўнай Управай БАЗА, з прыходам БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ды справа дапамогі ў працы Згуртаваньню Беларускае Моладзі.

Як і ранейшымі гадамі, Аддзел урачыста адзначаў леташнія 47-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка, сьвяткуючы іх двойчы: раз супольна з Галоўнай Управай БАЗА ў Нью Ёрку, другі раз у сябе — у Нью Брансьвіку. Як гэта ўжо ўвайшло ў традыцыю, губарнатар штату Нью Джэрзі Рычард Гюс выдаў летась праклямацыю, якой абвесьціў дзень 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі ў сваім штаце. Падобная праклямацыя была выдадзеная й мэрам гораду Нью Брансьвік Чэстарам Паўлюсам. У дзень 25 сакавіка летась беларускі бел-чырвона-белы сьцяг красаваўся побач з амэрыканскім на мачце гарадзкой управы ў Нью Брансьвіку. На працягу цэлага тыдня мясцовая амэрыканская прэса зьмяшчала даволі абшырныя весткі аб Беларусах і Беларусі, аб Акце 25 Сакавіка, аб БАЗА.

Дня 23 траўня 1965 г. Аддзел адзначыў 15-ыя ўгодкі свайго заснаваньня ўрачыстай акадэміяй у залі „Лібэрты Гол" у Саўт Рывэры. У сьвяткаваньні прынялі ўдзел шматлікія госьці, у тым ліку зь Нью Ёрку. У мастацкай частцы ўдала выступаў танцавальны гурток ЗБМА. На гэтай урачыстасьці прысутныя маглі пазнаёміцца з нова-выдадзенай паангельску брашурай „Беларусы ў Нью Джэрзі", апрацаванай Аддзелам з нагоды 300-годзьдзя штату Нью Джэрзі.

Дня 27 чырвеня 1965 г. Аддзел ладзіў свой гадавы пікнік на дзядзінцу царквы. Тут, у цяні дрэў, сябры й сяброўкі весела правялі час пад музыку й народныя песьні. Пікнік прынёс ня дрэнны даход у касу арганізацыі.

18-га й 19-га верасьня адбыўся ў Нью Брансьвіку 11-ы Кангрэс БАЗА, на які зьехалася шмат дэлегатаў зь іншых штатаў. Управа Аддзелу ўзяла на сябе адказнасьць за тэхнічны й матарыяльны бок Кангрэсу й добра вывязалася з гэтага абавязку. У першы дзень нарадаў быў дадзены супольны абед для дэлегатаў Кангрэсу й гасьцей, а ў вечары была зладжаная танцавальная вечарына. Далёкія дэлегаты й госьці былі належна расквартараваныя.

31-га сьнежня 1965 г. Управа Аддзелу зарганізавала Сустрэчу Новага Году ў „Лібэрты Гол" у Саўт Рывэры. Гэта было найбольш удалае й найбольш колькаснае спатканьне Новага Году, якое ладзіў наш Аддзел за 15 год свайго існаваньня. У спатканьні прыймала ўдзел шмат сяброў БАЗА зь Нью Ёрку. Адпаведна быў і ня дрэнны даход, зь якога 10% было адлічана на газэту „Беларус". На адным із сваіх паседжаньняў Управа Аддзелу прыняла пастанову рабіць такія адлічэньні з чыстага даходу ад кажнае імпрэзы ў будучыні. Старшыня адзначыў вялікую дапамогу ў ладжаньні розных імпрэзаў з боку сяброваў Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня.

Із справаздачы скарбніка Аддзелу інж. Ч. Ханяўкі вынікала, што каса Аддзелу ня пустуе: сальда на дзень сходу выносіла звыш 1.100 даляраў. Пасьля справаздачы Рэвізійнай Камісіі, сход большынёй галасоў даў уступаючай Управе абсалютарыюм з падзякай.

Тайным галасаваньнем была выбраная новая Управа Аддзелу БАЗА ў наступным складзе: сп. С. Гутырчык — старшыня, сп. сп. Б. Данілёвіч і П. Швэд — віцэ-старшыні, д-р Ул. Бакуновіч — сакратар, інж. Ч. Ханяўка — скарбнік, сп. сп. В. Стома, Я. Азарка і Ул. Сьліўка — сябры Управы, ды сп-ня Л. Бакуновіч — старшыня жаноцкае сэкцыі БАЗА. Трэба прызнаць, што гэта вельмі ўдалая й моцная Управа, ад якой можна спадзявацца, што павядзе Аддзел да далейшых дасягненьняў у нацыянальна-грамадзкай дзейнасьці.

Дык новай Управе Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі шчыра жадаем як найбольшых дасягненьняў.

## КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА Ў НЬЮ ЁРКУ

Беларуская сыботняя школа ў Нью Ёрку ладзіла 22 студзеня калядную ялінку. У залі пры 401 Атлянтык эвэню ў Брукліне зьбраліся вучні й настаўнікі школы, бацькі й госьці, каб правесьці разам пару гадзінаў часу, каб пачуць з вуснаў дзяцей у роднай мове аб радасным здарэньні — Нараджэньні Збаўцы.

Урачыстасьць распачаў Уладыка Васіль малітваю, тады-ж калядні настрой стварыў прачытаны сп. Я. Запруднікам верш Н. Арсеньневай „Слава Богу на вышынях". Пад музыку ведамай калядкі „Ціхая ноч" (іграла на трубцы Зося Драздоўская) паволі адчынілася заслона адкрываючы сцэнку бэтлейкі. Анёлы сталі на каленях перад яслямі, над якімі Маці ўсьміхалася да Божага Сына-Дзіцяці. Аб нараджэньні Збаўцы, аб зорцы калядней і Трох Каралёх расказаў адзін анёл (Алеся Кіпель). Тады-ж прыбылі й Тры Каралі (тры вучні першае клясы— Юрка Кіпель, Юрка Драздоўскі й Юрка Божка) ў багатым адзеньні й залатых каронах і пакланіліся Дзіцятку.

Пасьля перапынку ў дзіцячай самадзейнасьці выступалі зь вершамі вучні й ня вучні, з музычнымі й вакальнымі нумарамі. Прыемна было чуць вершы ў добрай беларускай мове. Вельмі гаварлівы старэнькі Дзед Мароз распытаў пра ўсё дзяцей, усім цікавіўся і наапошку абдарыў шчодра пакаляднаму.

***

І была гэта прыказкавая „лыжка дзёгцю" на гэтым прыгожым і радасным сьвяткаваньні. Не захацелі прывесьці сваіх дзяцей на іхную-ж урачыстасьць некаторыя бацькі, пераважна тыя, што ўжо з восені з розных меркаваньняў не пасылалі або перарвалі пасылаць сваіх дзяцей у школу.

Розныя тлумачэньні можна пачуць у гутарках з гэтымі бацькамі. „— Зразумейце-ж вы, настаўнікі, бацькоў! Ім-жа трэба адпачыць у вадну вольную ад працы сыботу". Або: „— Якраз у сыботу мая дачка мае лекцыю балету ці ігры на піяніне". Яшчэ іншыя мяркуюць: „— Няхай мая дачка (ці сын) перш навучацца паангельску (а тая дачка ці сын амаль ад калыскі авалодалі ангельскую мову), а зь беларускай можна й пачакаць. Каб-жа хаця беларуская мова ня перашкодзіла ў навучэньні ангельскай!"

Бязумоўна, і лекцыі балету, і ігры на піяніне — патрэбныя. Так сама патрэбны й той сыботні адпачынак бацьком (хіба-ж і настаўнікам?!). Але ўсё-ж ці ўзапраўды мы ў парадку з такімі вось адчэпнымі тлумачэньнямі перад сваім сумленьнем? Ці-ж такія нашыя тлумачэньні абароняць нас ад удараў коньніка з „Пагоні" Максіма Багдановіча — „Бійце у сэрцы іх, біце мячамі, — не давайце чужынцамі быць!".

Не, ня прынясе гонару нам Беларусам памагаць у дэнацыяналізацыі нашае новае зьмены. Справа нацыянальнага ўзгадаваньня нашага наймалодшага пакаленьня, ня даць яму „быць чужынцамі", вельмі важная справа й вельмі сур'ёзная. Ніколі ня позна яшчэ й яшчэ раз перадумаць сваё паступаньне, сваё дачыненьні да нашае настаўніцкае працы, да нашае школы.

Дзьверы беларускай сыботняй школы шырака адчыненыя заўсёды й для ўсіх, а цярплівасьць нашая неабмежаваная. Мы ўсьцяж спадзёмся на ляяльнае, ганаровае й беларускае дачыненьне да школы беларусаведы й чакаем супрацоўніцтва.

**Настаўніца**

## КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА У СЫДНЭІ

У сыботу 8-га студзеня зь ініцыятывы Управы Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзёнай Валіі была зарганізаваная калядная ялінка для беларускіх дзетак.

Адкрыў урачыстасьць старшыня Аб'еднаньня сп. М. Каранеўскі. Ён-жа прывітаў прысутных ізь сьвятам Калядаў ды павіншаваў з Новым Годам. Пасьля старшыні голас быў перададзены новай зьмене. І так дэклямацыі вершаў Марылькі Смаль, Марылькі Каранеўскай і Юркі Нарушэвіча былі ўзнагароджаны бурнымі воплескамі. Тады, з пад прыгожа прыбранай ялінкі, Дзед Мароз раздаў нашым дзеткам мноства падаркаў. Шкада толькі, што Каляды ў гэтай частцы сьвету прыпадаюць якраз сярод лета, дык Дзед Мароз ня мог адзецца ў свой традыцыйны кажух.

Пакінуўшы дзетак зь іхнымі падаркамі, бацькі працягвалі ўрачыстасьць. Дэклямацыі калядніх і сатырычных вершаў выканалі сп-ня А. Каранеўская й сп. М. Лужынскі. Сп. А. К. прадэклямаваў прынагодны верш вельмі актуальнага зьместу, у якім быў пакладзены націск на нашае эміграцкае жыцьцё, нашыя дачыненьні да суродзічаў, да бацькаўшчыны, пагоню за грашмі ды нажаль, і абыякавасьць ды лянівае зацішша на грамадзкай ніве.

У частцы сьпеву галоўным верхаводам быў д-р Я. Малецкі. Праляялі шмат калядак, жартаўлівых, бытавых і патрыятычных песьняў. Шкада толькі, што час не чакаў і трэба было разыходзіцца.

Асаблівая падзяка за зарганізаваньне ялінкі належыцца спадарыням Лёлі Алрайт, Олі Качан і Аўгені Каранеўскай, якія ўлажылі шмат працы для зрэалізаваньня гэтага так удалага вечару.

**М. Л.**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

### АД „ВАСЬКІ" ДА „САФІЙКІ"

**Глыбокапаважаны Сп. Рэдактар!**

Дазвольце выправіць прыкрыя хібы, што трапілі ў не благі наагул твор Міхася Козыра „Сёе-тое", надрукаваны ў № 103 „Беларуса". Гэтак, паводля паважанага аўтара:

„У Магілеве зьнесьлі сабор 17-га стагодзьдзя разам з будынкам былога кадэцкага корпусу".

Хіба-ж у Магілеве? Гэты барбарскі ўчынак здарыўся летась ў Полацку, дзе бальшавікі разбурылі велічны Мікалаеўскі сабор. Дарэчы, пабудаваны ён у стылю рэнэсансу ў імя першага пакутніка архідыякана Сьцяпана ў 1588 годзе, а значыцца зьяўляўся помнікам 16 стагодзьдзя.

Потым мімаволі паўстае пытаньне: Чаму мы маем аж на сьценку лезьці з тае прычыны, што ў тым-жа Полацку зруйнаваны „будынак былога кадэцкага корпусу"? Калі мы запраўды абураемся, дык вылучна таму, што ў тым уласьне будынку, адмыслова пабудаваным аднача й побач з сабором, зьмяшчаліся сьпярша калегія, а пазьней акадэмія. Яна налічвала ў сваіх трох факультэтах 600 студэнтаў і 40 прафэсароў ды мела добра абсталяваныя лябараторыі й вялікую кнігніцу. Толькі ў 1835 годзе ў будынку былое акадэміі, зьнішчанае царатам у 1820 годзе, зьявіўся адзін з атрыбутаў Расейскае імпэрыі — кадэцкі корпус, які рыхтаваў знаных падпаручыкаў „з мазгамі набакір".

З душэўным болем і сардэчным жалем мы Беларусы, а перадусім віцебляне, даведаліся пра тое, што ў Віцебску савецкімі цемрашаламі падарвана старажытная царква, якая здавен-даўна зьяўлялася сэрцам гораду. Аднак называлася яна ў народзе царквой Дабравешчаньня, а ня „Благавешчаньня", як сьцьвярджае шаноўны аўтар. Калі для Расейцаў „блага" гэта — добра, дык для Беларусаў яно — дрэнна. Таму ніколі віцебляне й не называлі сваёй сьвятыні „Благавешчаньня". Даруй Божа, але няўжо арханел Гаўрыіл прынёс Найсьвятой Дзеве Марыі, разам з белай лілеяй, благую вестку?

Далей, ідучы ў сьлед за тамашнім паэтам Рыгорам Барадулінам, Міхась Козыр двойчы называе рэлігійную й гістарычную сьвятыню беларускага народу Полацкі Сафійскі сабор... Сафійкай. А Рыгор Барадулін, пэўне-ж, у сваю чаргу зьяўляецца спадкаемнікам вядомага Уладзімера Маякоўскага, які назваў старажытны маскоўскі храм сьвятога Васіля дзеля Хрыста бажавольнага — „Васькой". Навошта нам ужываць расейскія мянушкі ў дачыненьні да нашых нацыянальных рэліквіяў?

З пашанай да Вас
**Юрка Віцьбіч**

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаючы Ліст сп. Юркі Віцьбіча й шчыра дзякуючы за ягоныя папраўкі, выясьняем, што допушчаньня ў творы М. Козыра „Сёе-тое" ў №103 „Беларуса" памылкі ня з віны М. Козыра, але газэты „Літаратура і Мастацтва", зь якой адпаведныя месцы былі М. Козырам зацытаваныя.

## СЯМЕЙНАЯ ХРОНІКА

### ЗАКОНЧЫЛА ВЫШЭЙШЫЯ СТУДЫІ

У канцы мінулага году пасьпяхова закончыла факультэт псыхалёгіі на сыднэйскім унівэрсытэце ў Аўстраліі сп-ні Оля Качан. Дасягненьне сп-ні Качан заслугоўвае на асаблівую ўвагу якраз таму, што сярэднюю асьвету яна закончыла яшчэ ў Нямеччыне, ды, не зважаючы на доўгі перапынак, дасягнула сваю мэту.

Здольнасьці й працавітасьці сп-ні Качан няма межаў. І тут хочацца толькі выказаць пажаданьні, каб нашыя маладыя студэнты ўзялі зь яе прыклад. Сп-ня Качан надзеіца дастаць пасаду лектара на тым-жа сыднэйскім унівэрсытэце, а мы, знаёмыя й прыяцелі, жадаем ёй якнайбольш шчасьця й памысьнасьці ў ейным асабістым жыцьці й у навуковай працы.

**М. Л.**

### ВЫСОЦКІ — БАРАНОЎСКАЯ

У сыботу 20-га лістапада летась ў царкве Сьв. Афрасіньні Полацкай у Таронце а. В. Сагайдакіўскі павянчаў Аляксандра Высоцкага з Тамарай Бараноўскай. Бацькі маладых — сьведамыя й актыўныя й эміграцыйным жыцьці Беларусы. Вясельле гулялі вечарам у залі сьв. Вячаслава на Гладстан вуліцы.

Маладой пары жадаем доўгіх год шчасьлівага сужэнскага жыцьця!

### НАВАСЕЛЬЛЕ У СПАДАРСТВА КІРКАУ

Беларуская грамада ў Таронта ўжо ці аднаму зрабіла прыемную неспадзеўку з нагоды набыцьця собскіх хатаў. Чарговая такая неспадзеўка была зробленая й для сп-ва Кіркаў у сыботу 29 кастрычніка зь ініцыятывы сп-ва Чорных, якія сабралі сярод знаёмых ладную суму для падарку.

## ПРА АНТЫКАМУНІСТЫЧНУЮ ДЭМАНСТРАЦЫЮ Ў НЬЮ БРАНСЬВІКУ

У папярэднім нумары „Беларуса" ў зацемцы „Антыкамуністычная Дэманстрацыя" мы інфармавалі аб удзеле Беларусаў у антыкамуністычнай дэманстрацыі ў Нью Брансьвіку 27 лістапада летась у падтрыманьне палітыкі амэрыканскага ўраду ў Ветнаме.

У дадатак да гэнай інфармацыі гэтта падаём, што ўдзел Беларусаў у гэнай дэманстрацыі быў падрыхтаваны й праведзены Аддзелам Згуртаваньня Беларуска - Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі й ягоным старшынём сп. С. Гутырчыкам. Ён-жа вёў беларускую калёну з нацыянальным беларускім сьцягам падчас дэманстрацыі. Ньюбрансьвіцкая штодзённая газэта "The Sunday Home News" за 28 лістапада 1965 г. зьмясьціла абшырную справаздачу з дэманстрацыі й фотаздымку з вулічнага паходу, на чале якога машыруе беларуская група. Старшыня Аддзелу 25 Амэрыканскага Легіёну сп. Джозэп Люк, што арганізаваў усю дэманстрацыю, пераслаў на імя сп. С. Гутырчыка падзяку за актыўны ўдзел у ёй Беларусаў наступнага зьместу:

Nov. 30, 1965.
The Hon. Sergius Hutyrczyk
State Chairman of the
Association of Byelorussian-Amer. Vet.
9 River Road,
Highland Park, N. J.

Dear Sirs:

On behalf of the officers of the alliance and the Parade Committee I wish to thank you for fine support you gave us for a cause we was a worthy one.

Thanks again for worthy help and may we look forwarl to call on you again.

Yours truly,
Joseph E. Lueck
Commander.

Не зважаючы на гэта, „Беларуская Думка", што выдаецца ў Саўт Рывэры, у нумары 8 за 1965 год ні з таго — ні зь сяго напісала, што „Беларускую групу Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі вёў падпалкоўнік А. Буглай", які, дарэчы, навет не належыць да Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў.

## КАНЦЭРТ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У БРАДФАРДЗЕ

26 лістапада 1965 г. у залі ўнівэрсытэту ў Брадфардзе адбыўся Канцэрт Паняволеных Народаў дзеля адзначэньня 20-ых угодкаў інтэрнацыянальнага супрацоўніцтва народаў Задзіночаных Нацыяў. У канцэрце прыймалі ўдзел і Беларусы.



Антон Мучынскі

Маладыя беларускія артыстыя, сябры Беларускага Юнацкага Клюбу пры Аддзеле ЗБВБ у Брадфардзе, упрашыню выступалі перад вялікай колькасьцю дастойных гасьцей зь мясцовай гарадзкой управы й студэнтаў із шмат якіх краёў сьвету.

Удала граў на акардыёне беларускія народныя мэлёдыі наймалодшы з усіх артыстых Антон Мучынскі, які быў узнагароджаны бурнымі воплескамі за выкананьне беларускай народнай песьні „Чаму-ж мне ня пець". Ганна Лемяшонак і Галіна Мацукевіч прыгожа выканалі пад музыку на мандаліне Юркі Хахолкі „Польку-Янку", атрымаўшы таксама бурныя воплескі прысутных, якіх было звыш 700 асобаў.

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце часапіс Беларусаў Паўночнае Амэрыкі „БЕЛАРУС"**

Кніжку МІКОЛЫ ЦЭЛЕША
„Дзесяць апавяданьняў"
можна выпісаць паводле наступнага адрысу:
Post Box "A" 7,
629 Ocean Parkway
Brooklyn 18, N. Y.
Цана кнігі зь перасылкай **3 даляры.**

**Л. ЛУНСКІ, АКУЛІСТ**



**Правярае вочы. Дабірае акуляры на вочныя недамогі.**
**ЛЕЧЫЦЬ НЭРВОВАСЬЦЬ І БОЛЬ ГАЛАВЫ.**
**Гаворыць пабеларуску**
**470 College St., Toronto.**
**Tel. WA. 1-3924**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011